

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 42 (629) 12 ЛІСТАПАДА 2003 г.

## Ларыса Геніюш зноў глядзіць на Зэльву



Між нацыянальных сцягоў. Здымак пасля ўстаноўкі помніка.

6 лістапада 2003 года ў Зэльве адбылася падзея, якую ўся Беларусь чакала доўгія 12 гадоў. Тут на пляцы Зэльвенскай царквы быў устаноўлены помнік Ларысе Геніюш, створаны скульптарам М. Іньковым у далёкім цяпер 1991 годзе. З гэтага помніка былі зроблены ўжо дзве копіі: адна стаіць у сядзібе Згуртавання беларусаў свету Бацькаўшчына, другая перад прыватным музеем А. Белага ў Старых Дарогах, а зэльвенскія ўлады ніяк не давалі дазволу на ўстаноўку арыгіналу помніка ў Зэльве.

Нарэшце Анатоль Белы ўзяўся і за гэтую справу. Ён атрымаў дазвол ад мітрапаліта Філарэта на ўстаноўку помніка Ларысе Геніюш на пляцы Зэльвенскай царквы, сталай прыхаджанкай якой была Вялікая Беларуска.

Камень пад помнік падабраў і апрацаваў Георгі Ладуцька.

І да 17.00 помнік паўстаў над Зэльвай, як сімвал беларускай упартасці і нескаронасці.

*(Працяг тэмы на ст.3.)*



**Адной з першых да помніка прыйшла Зося Каліноўская, пляменніца прэзідэнта БНР у1928-43 гг. Васіля Захаркі.**



**Выгляд помніка з Зэльвенскай вуліцы. Мабыць сімвалічна, што і ў сённяшняй Беларусі Ларыса Геніюш глядзіць на шырокі свет з-за платы. Дзякуй Богу, што хоць з-за царкоўнага, а не з-за лагернага. Надвячорак 6.11.2003 г.**

## 110 гадоў з дня нараджэння Кастуся Езавітава



17 лістапада спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння Кастуся Езавітава, аднаго з віднейшых дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэння. Арганізатар беларускага руху на Паўночным фронце 1-й Сусветнай вайны. Сакратар вайсковага аддзела Цэнтральнай беларускай вайсковай рады ў Менску. Удзельнік Усебеларускага з'езду, камендант Менска пасля ўцёкаў бальшавікоў, удзельнік абвяшчэння БНР, сябар рады БНР, народны камісар вайсковых спраў у першым урадзе БНР, камендант Беластока, камандзір 1-га Гарадзенскага беларускага палка, кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі ў Латвіі і Эстоніі. Па даручэнні ўрада БНР устанавіў дыпламатычныя адносіны з урадамі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Фінляндыі. Арганізаваў пераход аддзела генерала С. Булак-Балаховіча з арміі Юдзеніча на службу ўраду БНР. У 1920 г. урад БНР прысвоіў К. Езавітаву годнасць генерал-маёра. У 1923-24 гг. дырэктар Люцынскай гімназіі ў Латвіі. Удзельнік 1-й і 2-й Усебеларускіх канферэнцый у Празе і Берліне. У даваеннай савецкай Латвіі, працаваў у сістэме асветы. У час нямецкай акупацыі стварыў Бел. нац. аб'яднанне. На 2-м Усебеларускім кангрэсе абраны ў склад Бел. цэнтр. рады. Генерал-інспектар беларускага вызваленчага войска і вайсковы Міністр. Арыштаваны савецкай контрвыведкай у Германіі ў 1945 годзе. Памёр у менскай турэмнай бальніцы "ад сухотаў..." 23.05.1946 г.

## З днём народзінаў, спадарыня Леакадзія!



Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" сардэчна віншуюць з днём нараджэння сябра рэдкалегіі "Нашага слова", найактыўнейшага карэспандэнта нашай газеты, настаўніцу беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільні, шчырую беларуску **Леакадзію Мілаш**.

Мы зычым спадарыні Леакадзіі захаваць нязгасную адданасць, апантанасць і няўрымслівасць у ахвярнай працы на гонар Беларусі.

**На здымку:** Леакадзія Мілаш, Алег Трусаў і Станіслаў Шушкевіч у Вільні на III з'ездзе беларусаў Балтыі.

*(Пра Леакадзію Мілаш чытайце на ст. 4.)*

№ 42 (629) 12 ЛІСТАПАДА 2003 г. Наша слова

*Культура мовы*

**Святлана Сачанка**

# З НАЗІРАННЯЎ НАД МОВАЙ ТВОРАЎ МАСЕЯ СЯДНЁВА

**(па матэрыялах даследавання)**

Вядомы беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык і публіцыст Масей Сяднёў быў чалавекам, які не толькі выдатна ведаў нашу родную мову, па-майстэрску валодаў усім багаццем яе вобразна-выяўленчых сродкаў, але і сам з'яўляўся творцам яе, шырока выкарыстоўваючы індывідуальна-аўтарскія, аказіянальныя, і дыялектныя словы або іх формы. У невычэрпных глыбінях беларускай мовы пісьменнік адчуваў сябе свабодна і нязмушана, а галоўнае – заўсёды вельмі добра ўсведамляў тонкую мяжу, што аддзяляе простае ад прымітыўнага і складанае – ад празмерна ўскладненага. Масей Сяднёў меў мастацкі густ, і яму ў высокай ступені было ўласцівае пачуццё меры, моўнай гармоніі. Ён дасягнуў вельмі многага ў беларускай літаратуры, атрымаў прызнанне як геніяльны паэт эміграцыі (якога ставяць поруч з Наталляй Арсенневай) перш за ўсё таму, што ідэйная задума і яе моўнае ўвасабленне знаходзяцца ў яго творчасці ў цеснай узаемасувязі, узаемна арганічна абумоўлены і абгрунтаваны.

Масей Сяднёў не быў адным з тых, хто піша так, быццам лічыць: моўныя нормы і правілы для яго не існуюць, літаратар вышэй за іх. У мове яго твораў адсутнічае празмернае захапленне наватарствам і арыгінальнасцю; амаль няма ў Масея Сяднёва і слоўнаватвораў. Такім чынам, індывідуальнасць аўтарскай манеры пісьменніка выяўляецца не ва ўтварэнні новых слоў і іх формаў (нечаканых, аглушальна-свежых, не зафіксаваных у слоўніках розных перыядаў развіцця мовы), а ў таленавітым абыгрыванні ўжо існых у запасніках сучаснай беларускай літаратурнай мовы словаформаў. Камбінуючы безумоўна слоўнікавыя, упісаныя ў моўную сістэму формы пры дапамозе сваіх уласных шляхоў і спосабаў, Масей Сяднёў таксама дасягае эфекту навізны – але, так бы мовіць, "класічнай": прадуманай, сувымернай, адпаведнай усім канонам і правілам. Гэты пісьменнік новы ў звычайным, нечаканы ў простым. У гэтым і заключаецца адметнасць яго творчай манеры, непаўторнасць аўтарскага стылю пісьменніка. Масея Сяднёва часта называюць вялікім паэтам. Вялікі ён не толькі і не столькі таму, што здолеў стварыць выдатныя ўзоры пісьменніцкага майстэрства, але і таму, што жывучы на эміграцыі, з выключнай выразнасцю змог выкарыстаць усе рэсурсы беларускай мовы і паказаў добры прыклад у гэтым сэнсе многім сучасным беларускім пісьменнікам. Тонкі знаўца мовы, Масей Сяднёў сапраўды выявіў у сваіх творах і веды, і глыбіню, і творчую самастойнасць.

У мове твораў Масея Сяднёва можна вылучыць тры асноўныя групы словаформаў: 1)літаратурныя; 2)пазалітаратурныя; 3) індывідуальна-аўтарскія, або аказіянальныя. Пераважаюць, з пункту гледжання іх колькасці, літаратурныя. Разгледзім іх больш падрабязна. (Адразу ж заўважу, што пад літаратурнымі маюцца на ўвазе зафіксаваныя ў разнастайных слоўніках сучаснай мовы).



Безумоўную цікавасць для даследчыка ўяўляюць г. зв. варыянтныя словаформы – гэта значыць тыя літаратурныя формы, якія могуць мець варыянты ў сучаснай літаратурнай мове. Усе мы ведаем прыклады падобных словаформаў: ***сцяной і сцяною, яго і ягоны, вашай і вашае*** (Р. адз.), ***дзвярамі і дзвярыма, ляцяць і лятуць, прамяні і праменні*** і многія інш. яны адрозніваюцца паміж сабой сферай і частатой свайго ўжывання, суаднесенасцю з гутарковымі ці дыялектнымі формамі, а таксама адценнямі паэтычнасці, кніжнасці, устарэласці або навізны. Большасць пэўных варыянтаў не з'яўляюцца універсальнымі: іх можна сустрэць толькі ў творах мастацкай літаратуры. Трэба сказаць, што мова паэтычных тэкстаў наогул менш унармаваная і абмежаваная нейкімі правіламі ці стандартамі. У ёй усемагчымая свабода нават ухваляецца і заахвочваецца, кожнаму незвычайнаму, нязвыкламу слову надаецца вага і значнасць. Ды і самі падыходы навукоўца і пісьменніка да мовы як сродку выказвання сваіх думак з'яўляюцца – мяркуем – прынцыпова рознымі. Бо для вучонага першаступеннае значэнне мае тое, што сказаць, а для паэта, літаратара, - не толькі што, але і як. Перафразуючы вядомае выслоўе М. Багдановіча пра каласы і васількі ("Навошта каласы, калі няма васількоў?"), зазначым: трэба, каб у любым тэксце незалежна ад таго, мастацкі ён ці навуковы, былі ў наяўнасці і каласы, і васількі. Без гармоніі зместу і формы (прыгажосці, дасканаласці апошняй, у прыватнасці) немагчыма стварыць штосьці адметнае і значнае.

А цяпер звернемся непасрэдна да канкрэтных прыкладаў словаўжывання ў творах беларускага пісьменніка-эмігранта Масея Сяднёва.

Сярод варыянтных формаў у творах Масея Сяднёва на першы план і па частаце, і па ўніверсальнасці словаўжывання выходзяць некаторыя назоўнікі, прыметнікі і займеннікі з рознымі склонавымі канчаткамі. Так, напрыклад, назоўнікі ж. р. на ***–а, –я*** ў Т. адз. пераважна маюць двухскладовыя канчаткі ***–ою*** пад націскам ці ***–аю*** не пад націскам: ***слязою***, а не ***слязой*** і да т. п. Тыя ж, а таксама зборныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб, у Р. мн. звычайна набываюць канчатак ***–аў***, а не нулявы: ***палянаў***, ***сяльчанаў***. У Т. мн. назоўнікі ж.р. на ***–а***, ***-я***, як і назоўнікі г. зв. парнага ліку у т. скл., выступаюць з канчаткам ***–мі***: ***слязьмі, дзвярмі.*** Якасныя прыметнікі, дапасаваныя да назоўнікаў ж. р., у Р. адз. выкарыстоўваўцца з двухскладовым канчаткам ***–ое*** пад націскам і ***–ае*** не пад націскам: ***далёкае чужыны***. У Т. адз. гэтыя ж прыметнікі найчасцей набываюць таксама двухскладовыя канчаткі – ***ою*** (пад націскам) або ***–аю*** (не пад націскам): ***чужою зямлёй*** і інш. Няпэўны займеннік ***адна*** ж. р. у Р. скл. мае двухскладовы націскны канчатак ***–ае***: ***аднае***. Прыналежныя займеннікі ж. р. адз. л. ***твая, мая*** ў Р. скл. ужываюцца з двухскладовымі націскнымі канчаткамі адпаведна ***–ае***: ***твае*** і ***–ою***: ***маёю***. Зваротны ж займеннік ***сябе*** ў Т. скл., як правіла, ужываецца з двухскладовым націскным канчаткам – ою:сабою. Што можна сказаць наконт усіх гэтых, пералічаных вышэй, граматычных назоўнікавых, прыметнікавых і займеннікавых формаў? Яны аб'ядноўваюцца паміж сабой прыналежнасцю да стылю мастацкай літаратуры, выразным адценнем паэтычнасці, народнапесенным моўным каларытам. У творах Масея Сяднёва, як і ў тэкстах многа пісьменнікаў – нашых сучасных і прыналежных да іншых перыядаў развіцця літаратуры, падобныя словаформы звычайна аказваюцца выкарыстанымі з вобразна-экспрэсіўнымі мэтамі. Ужыванне такіх формаў надае мове літартурнага твора спеўнае гучанне, набліжае яе да фальклорных узораў. (Параўн. тэкст беларускай народнай песні: *"Як пайду я дарогаю, як пайду я шырокаю, пушчу голас дуброўкаю.")*

Але, паўторым, усе гэтыя граматычныя формы ў беларускай мове і ў наш час, як і ў тыя далёкія 20-30-я гады, калі Масей Сяднёў яшчэ толькі пачынаў свой творчы шлях, суадносяцца, як і суадносіліся, з літаратурнаю нормай, з'яўляючыся яе варыянтамі. У дачыненні наступных разгляданых намі словаформаў, уласцівых мове твораў пісьменніка-эмігранта, пра гэта сказаць нельга.

Спынімся, у прыватнасці, на дыялектных формах слоў у творчасці паэта. (Масей Сяднёў быў ураджэнцам Магілёўшчыны.) Варта адзначыць, што наогул чыста рэгіянальныя граматычныя асаблівасці мове твораў гэтага пісьменніка амаль не ўласцівыя, а значыць, формазмяненне слоў у Масея Сяднёва адбываецца ў асноўным у адпаведнасці з правіламі і нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Выключэнні тут даволі нешматлікія: так, назоўнікі ж.р. з нулявым канчаткам у н. адз. тыпу ***далеч, постаць*** у Т. адз. набываюць канчатак ***–ай***: ***далечай, постацяй, усхваляванасцяй***. Якасныя прыметнікі, дапасаваныя да назоўнікаў м.р., у Н. адз. маюць націскны канчатак ***–эй***: ***залатэй чылавек***, ***маладэй***. З такім жа канчаткам у творах пісьменніка ўжываюцца і асобныя займеннікі м. р.: ***тэй, нічэй, такей*** і інш. Займеннік ж. р. ***адна*** ў Р., Д. і М. адз. выкарыстоўваецца з націскным канчаткам ***–эй***: ***аднэй***. Азначальны займеннік мн. л. ***усе*** ў Н. выступае з канчаткам ***–і***: ***усі*** і ў Т. набывае націскны канчатак ***–іма***: ***усіма***. Колькасны лічэбнік ***абодва*** у Масея Сяднёва гучыць як ***абодвы*** і набывае ў Р. і Д. наступныя склонавыя формы: ***абодвых, абодвым***. Названыя словаформы ўжытыя пісьменнікам у адных выпадках несвядома – у паэтычных творах, адлюстроўваючы дыялектныя ўласцівасці роднай магілёўскай гаворкі, а ў іншых – абсалютна ўсвядомлена, у ягонай прозе характарызуючы маўленне дзейных асоб, герояў рамана "І той дзень надышоў", - магілёўцаў. Такім чынам, некаторыя дыялектныя словаформы Масей Сяднёў выкарыстаў са стылістычнымі мэтамі.

Калі гаварыць пра дыялектныя асаблівасці мовы твораў гэтага пісьменніка, неабходна будзе заважыць, што, паколькі ён усё сваё жыццё карыстаўся старым (дарэформенным) правапісам, ці тарашкевіцай, у яго творах увогуле вельмі паслядоўна захоўваецца сувязь паміж вымаўленнем і напісаннем. Пры гэтым з дапамогай правапісу перадаюцца рысы не толькі літаратурнага, але і дыялектнага вымаўлення (такія, як дысімілятыўнае аканне – ***шэнчым, хочыш, мыладэй, чылавек***, прыстаўны ***і – еты***, і інш.) аднак многія з такіх асаблівасцяў трэба суаднесці ўжо не з граматыкай, а з фанетыкай, і, як з гэтага вынікае, паглыбіцца ў сферы, непасрэдна не звязаныя з пісьменніцкім майстэрствам і тым больш – мастацкім стылем. Да таго ж, шмат якія выпадкі адлюстравання мясцовых фанетычных рыс на пісьме можна аднесці да недахопаў у рэдагаванні кніг Масея Сяднёва, выдадзеных на эміграцыі. Часам гэта могуць быць проста памылкі друку.

Звернемся яшчэ да граматычных формаў, пашыраных у 20-30-я гады мінулага стагоддзя. Асобныя з іх і цяпер знаходзім у творах сучасных беларускіх пісьменнікаў (тых з іх, хто ў наш час карыстаецца тарашкевіцай). У мове твораў Масея Сяднёва гэта такія формы, як назоўнікі м. р. з нулявым канчаткам у Н. адз., што ў Д. мн. набываюць націскны канчатак – ***ом***: ***гаспадаром***, а у М. мн. – канчатак ***–ох***: ***у туманох***, лічэбнікі ***пяць, шэсць***, што ў М. скл. ужываюцца з націскным канчаткам – ***ёх***: аб ***пяцёх, шасцёх***, і таксама дзеясловы 2-й ас. мн. л. загаднага ладу: ***скажэце, нясеце*** і інш. Для сучаснай літаратурнай мовы пералічаныя словаформы нехарактэрныя, яны ўспрымаюцца намі як устарэлыя і надаюць аповеду адценне кніжнасці, архаічнасці. Безумоўна, у гутарковай мове асобных прадстаўнікоў старэйшага пакалення, узгадаваных па падручніку "Беларуская граматыка для школ" Б. Тарашкевіча, усе гэтыя формы сустракаюцца і часцяком не ўспрымаюцца іх носьбітамі як аджылыя і вышаўшыя з ужытку.

Асобныя граматычныя формы ў паэтычных творах Масея Сяднёва дапамагаюць захаваць рытм або рыфму. Гэтая з'ява сустракаецца вельмі рэдка і датычыць пераважна назоўнікаў: не ***ў бегу***, а ***ў безе***, а таксама інфінітыва дзеясловаў: не ***есці***, а ***есць***, не ***ссекчы***, а ***ссеч***. З пункту гледжання літаратурных нормаў словаформы першай групы ўспрымаюцца, як адступленні, а словаформы другой – як варыянты. Канечне, падобнае абыходжанне з усталяванымі моўнымі нормамі даволі смелае і магло б нават выклікаць пярэчанні, калі б не натуральнасць утвораных новых формаў для ўсёй сістэмы нашай мовы. Вось чаму памянёныя словаформы не раздражняюць, а застаюцца амаль незаўважанымі, не прымушаючы задумвацца чытача над пытаннем: ці беларускія яны, ці літаратурныя?

З разгледжанага намі фактычнага матэрыялу вынікае, што пісьменнік можа (і павінен) узбагачаць мову сваіх твораў арыгінальнымі, непатурнымі формамі слоў, а таксама цікавай лексікай. Дарэчы, слоўнік мовы Масея Сяднёва на сённяшні дзень вывучаны мала і таму чакае свайго даследчыка. Прыклад беларускага паэта-эмігранта сведчыць аб тым, што кожны сапраўды таленавіты твор заўсёды напісаны каларытнай мовай, дасканалай у мастацкіх адносінах. Патрабавальнае стаўленне пісьменніка да сваёй мовы забяспечвае літаратурны поспех, гарантуе аўтару таго ці іншага твора прыхільнасць шырокай аўдыторыі чытачоў. Масей Сяднёў быў незвычайнай асобай, рознабакова адораным чалавекам, уся дзейнасць якога была накіраваная на адраджэнне Бацькаўшчыны і дасягненне лепшай будучыні беларускім народам. Патрыёт Беларусі, ён пакінуў яркі след у нашых сэрцах сваімі неўміручымі паэтычнымі радкамі, сваёй цудоўнай празаічнай творчасцю. Яго душа была прыгожай, і такой жа прыгожай была і застанецца яго мова, з якой мы ўсе можам пазнаёміцца ў ягоных кнігах.





# 480 гадоў "Песні пра зубра"

Міколу Гусоўскага лёс звёў з біскупам Эразмам Вітэліўсам, які быў яго апекуном і сябрам. Эразм быў вядомы пры еўрапейскіх дварах дыпламат, не раз узначальваў адказныя пасольскія місіі. У 1518 годзе пасольства Вялікага княства Літоўскага і Каралеўства Польскага на чале з Вітэліўсам выехала ў Рым. Мецэнат узяў з сабой паэта.

Рымскі папа Леў X быў тонкім знаўцам паэзіі і мастацтва, а таксама любіў паляванне. Пад уплывам аповядаў біскупа Вітэліўса пра пушчы далёкай радзімы папа пажадаў мець праўдзівы паэтычны твор пра паляванне на ляснога волата зубра. Мецэнат даручыў выканаць просьбу Міколу Гусоўскаму.

Створаная ў 1522 годзе на латыні, паэма М. Гусоўскага атрымала назву "Песня пра аблічча, дзікасць зубра і паляванне на яго", або скарочана "Песня пра зубра". Валадар беларускіх пушчаў дзякуючы паэтавай ліры стаў вобразам роднай зямлі. Мікола з Гусава стварыў велічны гімн свайму






краю, яго прыродзе, мужнай і прыгожай душы народа. Ён паказаў Вялікае княства Літоўскае, як еўрапейскі бастыён змагання з турэцка-татарскай пагрозаю.

Падчас працы над "Песняй" у Рыме пачалася чума. Памёр папа Леў X, памёр апякун паэта біскуп Вітэліўс. Тым не менш Мікола Гусоўскі здолеў завяршыць паэму і вярнуцца з ёю на радзіму.

Дзякуючы падтрымцы польскай каралевы Боны Сфорца "Песня пра зубра" выйшла ў кастрычніку 1523 года ў Кракаве і зрабіла імя свайго аўтара неўміручым.

# ДЫРЭКТАР МІНСКАГА ГАРАДСКОГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ МЯРКУЕ, ШТО НАВУЧАЛЬНАЯ ЎСТАНОВА ПАЧНЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ З 1 СТУДЗЕНЯ 2004 ГОДА

Менск, 6 лістапада. Нядаўна прызначаная на пасаду дырэктара Менскага гарадскога гуманітарнага ліцэя Таццяна Замыслова мяркуе, што гэтая навучальная ўстанова пачне дзейнічаць з 1 студзеня 2004 года. Пра гэта яна паведаміла БелаПАН.

Паводле слоў Т. Замысловай, пытанні арганізацыі новай навучальнай установы павінны абмяркоўвацца 6 лістапада ў Камітэце па адукацыі і справах моладзі Менгарвыканкама.

Нагадаем, што пасля ліквідацыі ў канцы чэрвеня г.г. Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа (НГЛ) улады абяцалі бацькам навучэнцаў да 1 верасня гэтага года адкрыць Менскі гарадскі гуманітарны ліцэй і перадаць яму будынак па вуліцы Кірава, 21.

Аднак, паводле слоў Т. Замысловай, рамонт гэтага будынка пакуль не праводзіцца з-за таго, што Камітэт па адукацыі і справах моладзі яшчэ не падрыхтазаў неабходную дакументацыю для правядзення рамонтных работ.

Таксама Т. Замыслова заявіла, што пакуль не бачыць неабходнасці сустракацца з бацькамі навучэнцаў ліцэя. "Я разумею бацькоў, бо калі дзеці не вучацца, гэта цяжка. Аднак пакуль я не магу дакладна сказаць бацькам, што заўтра я гатова прыняць дзяцей у нейкі канкрэтны будынак у Менску. Я хацела б нешта сказаць людзям толькі пасля таго, як усе рашэнні будуць прыняты", — сказала Т. Замыслова.

Паводле яе слоў, інфармацыя аб прыёме дакументаў навучэнцаў для паступлення ў новую навучальную ўстанову будзе прадстаўлена ў СМІ.

У інтэрвію БелаПАН член бацькоўскага камітэта НГЛ Сяргей Занкевіч паведаміў, што аб прызначэнні дырэктара Менскага гарадскога гуманітарнага ліцэя бацькі даведаліся з публікацыі ў газеце "Наша Ніва", нягледзячы на шматлікія вусныя і пісьмовыя звароты ў Камітэт па адукацыі і справах моладзі Менгарвыканкама.

Як зазначыў С. Занкевіч, "пасля трох дзён пошуку яму ўдалося звязацца па тэлефоне з Таццянай Замысловай, "аднак канструкцыйнай размовы ў нас не атрымалася". "На маю просьбу аб сустрэчы з бацькамі больш як 120 навучэнцаў, якія хацелі б даведацца, якім чынам Замыслова будзе наладжваць навучальны працэс у Менскім гарадскім гуманітарным ліцэі і праводзіць рамонт будынка навучальнай установы па вуліцы Кірава, 21, бацькам ліцэістаў было прапанавана звярнуцца ў Камітэт па адукацыі і справах моладзі або ў Міністэрства адукацыі", — сказаў С. Занкевіч.

Ён лічыць, што "ў пазіцыі Таццяны Замысловай у чарговы раз праявілася стаўленне ўладаў да беларускамоўных бацькоў і іх дзяцей". С. Занкевіч нагадаў, што 14 ліпеня гэтага года ў Камітэце па адукацыі і справах моладзі быў зарэгістраваны зварот бацькоў НГЛ з просьбай адказаць на пытанне аб стварэнні Менскага гарадскога гуманітарнага ліцэя. "Аднак дагэтуль мы так і не атрымалі пісьмовага адказу на гэты зварот", — сказаў С. Занкевіч. Ён лічыць "смешнай сітуацыю, пры якой справай беларускамоўнай адукацыі ў сталіцы Беларусі займаюцца чыноўнікі, якія не валодаюць беларускай мовай".

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# ВАЦЛАЎ ГАВЕЛ ВЫКАЗАЎ СВАЮ ПАДТРЫМКУ КАЛЕКТЫВУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

Былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел звярнуўся са словамі падтрымкі да калектыву Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Яго ліст зачытаў дырэктар гэтай навучальнай установы Уладзімір Колас на вечарыне першакурснікаў, якая адбылася ў Менску 5 лістапада.

Вацлаў Гавел, у прыватнасці, піша, што добра ведае аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Я. Коласа, аб паслядоўнай русіфікацыі і закрыцці беларускіх школ. У свой час, зазначаецца ў лісце, чэхі перажылі такога кшталту праблемы. Былы прэзідэнт Чэхіі выказаў упэўненасць у тым, што ў беларускага народа, які змагаецца за дэмакратыю і захаванне сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці, таксама хопіць стойкасці дамагчыся свайго. Вацлаў Гавел паабяцаў расказваць аб праблемах ліцэя імя Я.Коласа на ўсіх сваіх сустрэчах з палітычнымі і грамадскімі дзеячамі.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

# Ларыса Геніюш зноў глядзіць на Зэльву



*(Заканч. Пач. на ст. 1.)*

Установку праводзілі людзі з Менска, Ліды і самой Зэльвы, начале з А. Белым і Г. Ладуцькам. Зэльвенскія ўлады ў чарговы раз выказалі сваё стаўленне да памяці паэткі. На момант установкі не аказалася ні цвёрда абяцанага пад'ёмнага крана, ні цэменту, ні людзей.

Давялося камень у 1200 кг вагой ставіць уручную. Але, дзякуй Богу, Зэльва - яшчэ беларускі горад.

Купілі цэмент. Падышлі простыя людзі, што выпадкова аказаліся каля бліжняй крамы, падышлі суседзі, хто прынёс лом, хто вядро, хто рыдлёўку, хто вяроўку. І помнік паўстаў.

Помнік установлены на высокім вуглу царкоўнага дзядзінца. Ларыса Геніюш глядзіць уздоўж вуліцы, па якой хадзіла многа гадоў, і якая абавязкова будзе названа яе імем, хоць мо давядзецца чакаць ізноў гадоў дванаццаць, але так будзе, бо пра гэтую вуліцу, як і пра гэты помнік зноў будзе дбаць уся Беларусь, а жаданне і воля людскія заўсёды матэрыялізуюцца, асабліва калі яны шчырыя і светлыя.



Устаноўка помніка

Духоўная настаўніца беларусаў, чый пакутны і гераічны лёс стаўся сціснутым у часе адбіткам гераічнага і пакутнага лёсу ўсёй нашай краіны, у чарговы раз выйшла пераможцай у барацьбе з цемрашальствам і парэшткамі бальшавізму, якія дагніваюць на нашай зямлі. І тое, што помнік паставілі простыя людзі без усякай дапамогі ўладаў, таксама сімвалічна, гэта значыць, што гэтыя ж простыя людзі здольныя паставіць на лепшае і ўсё нашае жыццё, і наш дзяржаўны лад, як бы там розныя ўладныя і псеўдаўладныя структуры не чапляліся за поручні каланіяльнага цягніка. Ён, гэты цягнік адыходзіць назаўсёды, а мы застаёмся ў сваёй краіне і на сваёй зямлі, у краіне і на зямлі Ларысы Геніюш.

*Яраслаў Грынкевіч.*



Першыя кветкі да помніка ўскладае Анатоль Белы

# МІЛАШ – ЛЮДЗЯМ МІЛАЯ

Неяк я задумаў напісаць шэраг нарысаў пад агульным назовам "Чалавек у вышыванцы".

У маёй фотакалекцыі ёсць колькі здымкаў з фоталетапісу спадарыні Леакадзі Мілаш. Леакадзя на іх – у нацыянальных строях! дыцыя. Вышываюць мае цёткі, больш карціны. Вышывае мая дваюрадная сястра, адна і другая. Мая мама прыгожа тчэ посцілкі, ручнікі, робіць пруткамі. Тата выразаў цацкі з дрэва, быў добрым будаўніком. Гэта перадалося і майму



*Леакадзя з дачушкай Ксеняй у падвіленскіх Рукойнах, дзе хрысцілі Францішка Багушэвіча*

Яна ў іх - багіня! Пры нагодзе я пацікавіўся ў Леакадзі, што для яе значыць вышыванка. І от што яна мне на гэта напісала

"Высылаю Вам фотаздымак у вышыванцы. У мяне такіх некалькі. Брацяткі, я вельмі люблю рознакаляровыя, прыгожыя, як вочкі ды і цвітуць з вясны да восені. У дзяцінстве я шмат кветак садзіла, разводзіла. Памятаю, як неяк залезла свіньня ў мой кветнік. Я так плакала-галасіла, што мама



*Леакадзя з дачушкай Ксеняй у нацыянальных строях.*

пачула ў другім канцы вёскі, думала, невядома што здарылася. Люблю яшчэ валошкі.

Для Ксені вышываю такую кашульку. У мяне больш вышыванак-пакрываў на падушкі, наўлечак, карцін. Гэта сямейная тра-

брату. Ксеня для мяне вялікая радасць... Нацыянальныя строі я апранаю часта. Сустракала ў аэрапорце Івонку Сурвілу і Барыса Рагулю, Барыса Кіта, апранаю на Дзень Волі, калі бываюць у мяне госці. Я ўдзельнічаю ў мастацкай самадзейнасці – спяваю ў хоры.

Гэта мяне акрыляе, стан палёту, так як рабіць дабро. Ад гэтага атрымоўваю асалоду, творчы пад'ём. Вось для Ксені пашыла нацыянальны строй. У мяне ёсць некалькі купленых кашулек з вышыванкай".

Такі быў адказ Леакадзі Мілаш на маё сціплае пытаннейка. Тут вам і згадка пра маленства, і пра сямейныя традыцыі. Няздарма ж кажуць: мова і вопратка – гэта дзве найважнейшыя прыкметы, па якіх адрозніваюць адзін народ ад другога. Леакадзя ведае гэта і ў сваім жыцці трымаецца згаданых пастулатаў. І гэта робіць яе асобу самабытнай, незалежнай і прывабнай.

Упершыню я напаткаў яе на якойсьці беларускай імпрэзе ў Менску. Ці не на ўсебеларускім кангрэсе? Леакадзя трошку прыпазнілася і выглядала тыя дзверы, у якія ёй зайсці. І трэба ж такому здарыцца, што якраз у гэты момант выйшаў з залы я. Нашы погляды сустрэліся. Не ведаю, што адчула ад стрэчы нашых поглядаў Леакадзя. Мне ж маланкай жыхнула думка: "Якая пранікнёна пекна дама! Адкуль яна? З якім клопатам прыехала ў Менск?" Неўзабаве я вярнуўся ў залу. Вачыма знайшоў пранікнёную незнаёмку. Яна ўважліва лавіла думкі выступоўцаў. Нарэшце папрасіла слова і яна, і я даведаўся, што незнаёмка з Вільні, працуе ў беларускай школе. А клопаты ў яе такія, як і ў мяне: Беларусь, беларушчына, іх лёс і будучыня. З тае пары мы адчуваем з Леакадзяй адзін у адным патрэбу, зацікаўленасць. Яна – адна з нашых пасрэдніц з Вільняй. Праз яе, праз ліставанне і праз публікацыі ў беларускім друку мы даведваемся пра беларускія старонкі жыцця Вільні, яе Віленшчыны. Сама Леакадзя родам з Астравеччыны, жыве для Беларусі. Беларусь спазнае не толькі праз друкаванае слова, але і праз шматлікія вандроўкі. Леакадзя гадуе дачушку. У свае падарожжы часта бярэ з сабою і яе. Брала нават тады, калі тая яшчэ не ўмела хадзіць. Гэта гаворыць пра Леакадзіну апантанасць.

Хай жа гэтая няўрымслівасць не траціцца з гадамі. Гэты яе імпэт, яе добрая энергія перадаецца нам усім. Хочацца жыць і рупіцца для Бацькаўшчыны, для Беларусі. Леакадзя ў такім веку, калі яшчэ ўсё наперадзе. Мужчыны гэты век называюць "ягадкай". Чулі, мабыць?

*Ладымар Содаль.*

# Хроніка адной школы

## *(апавяданне)*

Дзьме халодны калючы вецер, які працінае вопратку, дабіраецца не толькі да цела, але і да касцей. Вельмі шалёны ён каля школы, што стаіць у паўднёвым канцы вёскі на скрыжаванні дзвюх дарог. Там, ля школы, нельга прастаяць і хвіліну: страшна холадна, нібы нячысцікі вяселле спраўляюць. Двухпавярховы будынак школы П-падобай формы, цэнтраль парадным ганкам скіравана на ўсход. Каб трапіць у калідор, трэба прайсці праз трое зашклёных дзвярэй. А ў калідоры, насупраць дзвярам, да сцяны, прытулілася тумбачка, на якой стаяць будзільнік і на падстаўцы графік званкоў першай і другой зменаў. Направа ад дзвярэй знаходзіцца кабінет хіміі: прэпаратарская, злева – бібліятэка, кабінет дырэктара і кабінет матэматыкі. Аб тым, што ў школе ёсць кабінеты, паведамляюць шыльдачкі, кшталту: "Кабінет матэматыкі", "... беларускай мовы і літаратуры", але навучане па кабінетнай сістэме не праводзіцца. Так, сёмы клас настаянна займаецца ў кабінеце мтэматыкі.

У калідоры ціха і пустынна. Мінула 15 хвілін, як пачаліся заняткі першай змены. У сёмым класе ўрок беларускай літаратуры. На дошцы напісана: "Сачыненне. Дальнейшы лёс Данька Мальца". Малады настаўнік Алесь Іванавіч павольна праходзіць па класе, на хаду кідаючы пагляд то налева, то направа, не робячы заўваг вучням. Прайшоўшы клас, ён паварочвае направа і падыходзіць да акна. За акном клумбы, за імі паркан, вуліца, за вуліцай два двухпавярховыя шматкватэрныя калгасныя дамы, за дамамі-агароды, нешырокая палася ворнага поля, магілкі, і далёка на гарызонце цягнецца шарая стужка лесу.

Глянуў Алесь Іванавіч у праём паміж двума двухпавярховымі дамамі – і дух заняло: з-за гарызонту павольна выплывае агромністым агністы шар сонца. Яго відаць яшчэ палова. Шар не праменіцца, няма ценяў ад дрэў пры вуліцы, ад дамоў, ён гарыць, а не свеціць, не праменіць. На ім, як на экране, вырысоўваюцца крыжы: сілуэты помнікаў на могілках, кусты і дрэвы на іх Алесь Іванавіч страсянуў галавою, глянуў на клас: вучні пішуць, здзівіўся іхняму спакою і раптам зразумеў: яны не бачаць цуда на ўсходзе.

- Дзеткі; пакладзіце ручкі і хутчэй да акна, - на адным дыханні выгукнуў ён.

Вучні здзіўлена паглядзелі на яго, а ён не маючы сілы больш вымавіць хоць адно слова, толькі ўзмахам рукі заклікаў дзяцей наблізіцца да акон. Дзеці паслухаліся, у класе пазняўся шумок, але раптоўна, як ўзнік, так і сціх.

- Глядзіце... там, якое сонца... – змог сказаць настаўнік. Але дзецям непатрэбная была яго каманда. Усе пазіралі на цуд. Пэўна, бачылі яны такое, як і іх настаўнік, упершыню. Сонца няўлоўна круглела, падымалася над гарызонтам, пылала золатам, але і таксама змяншалася ў памерах. Алесь Іванавіч зразумеў, што далейшае назіранне не мае сэнсу, і ён прапануе вучням сесці. Эфектыўным быў толькі міг, які і запомніцца на ўсё жыццё.

Дзеці селі, але за ручку ні адзін не ўзяўся. Яны былі далёка ад Даніка, яго лёсу. Алесь Іванавіч аб'яўляе:

- Напішыце цяпер, што вы толькі шло ўбачылі, што вы цяпер адчуваеце, што думаеце, а сачыненне пра лёс Даніка напішаце дома.

Не ўсе ўзяліся адразу пісаць. Некаторыя сядзяць нерухома, нібы адасобіліся ад наваколля. А Шурык з першай парты, вершы якога друкуе райгазета, піша хутка, закрэсліваецца, зноў піша. Алесь Іванавіч падсоўвае да сябе аркуш паперы, бярэ ручку, але ў гэты момант прыадчыняюцца дзверы, у праём паказваецца бібліятэкар і пальцам кліча Алеся Іванавіча. Калі Алесь Іванавіч падышоў да дзвярэй, ён паведамляе, што дырэктар хоча яго цяпер бачыць у кабінеце. Іншым разам ён адправіў бы бібліятэкара, але цяпер нельга шумець. Павінна быць цішыня: дух творчасці вітае над галавамі вучняў.

Дырэктар надзьмуты, як індык, сядзеў за сталом. Нос яго гарэў чырваннію, як толькі што бачанае сонца. Гэта прыкмета таго, што гаспадар яго злуецца. Ён трымаў у руцэ райгазету, рука дрыжала. Алесь Іванавіч прывітаўся, дырэктар на прывітанне не адказаў. Адно Алесь Іванавіч зачыніў за сабою дзверы, як дырэктар, не мяняючы позы, чуць не зароў.

- Ну што, пісака, дапісаўся! То на дырэктара саўгаса ў Маскву пішаш, што той гною табе не прадае...

- Не толькі мне, а ўсяму школьнаму педкалектыву – парабівае дырэктара Алесь Іванавіч. – Што гэта за жыццё: малака дзецям не купіш, нічога няма. А што ёсць. Адно абяцанне Леніна, што настаўнік пры сацыялізме будзе стаяць на такой вышыні, на якой не стаяў і не стаіць ні адзін настаўнік у капіталістычнай краіне.

- Ты Леніна сюды не падсоўвай. І пра калектыў не клапаці. Пра яго ёсць каму думаць.

- Хто ж гэта за зацікаўленая асоба, што думае пра нас?

- Як хто? Многа хто: рабачкам, партыйная арганізацыя. А дырэктар навошта крэсла займае? Вы ўсе гатовы толькі смяяцца з яго ды байкі пісаць пра яго. А назва якай! "Асёл на пні". А змест!

*Аднойчы Леў на пень*
*Загадчыка лясной звярынае асветы*
*Прапанаваў Асла:*
*- Шаноўныя, вось вам аўтарытэт,*
*Адзін што значыць яго цень,*
*Аб ім калісь пісаў Крылоў-паэт.*
*А я па здольнасцях не годзен у паэты,*
*Таму даць цалкам не змагу партрэт.*
*І ўсе гукнулі: "За".*
*Задраў Асёл угору хвост,*
*Травы не заўважае пад нагамі:*
*Падай яму гатовым сена і авёс,*
*Нібы авёс і рос над намі:*
*І вось да Ліскі нейк на ўрок*
*Асёл раз ногі прывалок,*
*Усеўся важна пад кустом,*
*Губу падпёршы капытом,*
*І думаць хоча, а няма чым.*
*Не размахнешся розумам аслычым.*
*Лісіцы хітрасць нам вядомая здаўна,*
*Яна Аслу ўпадобіла Слана,*
*І насарог садзіў яго не раз за сена стог,*
*А што Барсук і дробязь ваўчарня –*
*Яму тут не раўня.*
*- - -*
*І выйграла Лісіца:*
*Яна абцасікамі сёння стукае ў сталіцы.*

- Ах, вось дзе сабака закопаны, - усміхнуўся Алесь Іванавіч, - байку надрукавалі. - Яўген Антонавіч, -звярнуўся ён да дырэктара, - гэтая байка напісана мною, калі я вучыўся на другім курсе ў інстытуце. Праваобраза Асла няма ўжо на свеце.

- То чаму вы яе тады не друкавалі, а сягоння ўздумалі?

- Тады яна мне не спадабалася, а цяпер здалася вартай увагі. А ўрэшце рэшт, думайце, як хочаце. Я вам не забараняю, - сказаў Алесь Іванавіч і выйшаў з кабінета.

- Дурань, сапсаваў песню, - успомніў – ён рэпліку з п'есы "На дне". Вучні пісалі, многія з іх нават не заўважылі, як выйшаў з класа і як увайшоў назад настаўнік

Дзівак: калі падумаў, што байка пра яго, то маўчаў бы, а то сам сябе аслом назваў. Пэўна, многім будзе гаварыць ён пра сваю крыўду. А для аўтара лепшай узнагароды за тую, калі чытач у творы пазнае сам сябе, не трэба.

*(Заканчэнне на ст. 6.)*

# Хроніка адной школы

## (апавяданне)

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 4.)

Да гэтага чытача, Алесь Іванавіч падумаў пра дырэктара, - сэнс байкі не дайшоў, нехта падказаў яму. І калі? Алесь Іванавіч яшчэ не трымаў у руках суботняга нумара газеты з байкай. Паштальёна толькі пад абед прынесе. Гэта ж нехта ўчора, у нядзелю, атрымаў газету і паспеў данесці яе дырэктару і пасмяяцца з яго: вось байка пра цябе. Да канца ўрока засталося 10 хвілін. Алесь Іванавіч прысеў. Спачатку злаваў на дырэктара, каб не ён, то такі верш быў бы напісаны пра сонца, а на наступным уроку літаратуры ён і зачытаў бы яго вучням. Але пачуццё задавальнення, што знайшоўся жывы асёл, падняло настрой.

Звініць званок, дзеці здаюць аркушыкі. Алесь Іванавіч аб'яўляе, што лепшыя запісы будуць змешчаны на старонках літаратурнага альманаха. Ідучы ў настаўніцкую, Алесь Іванавіч думае, хто прынёс дырэктару газету і падказаў, што асёл з байкі не хто іншы, як ён. Ён стаў прыглядацца да настаўнікаў, усе яны нічым сябе не выдавалі. У настаўніцкую ўваходзіць завуч, які позіркам абвёў усіх і крыху затрымаўся на Алесю Іванавічу. Ледзь умоўная ўхмылка прабегла па яго твары, што не магло быць не заўважаным Алесем Іванавічам. Вось і ключ для разгадкі. У суботу ці ў нядзелю завуч, ён жа сусед паштальёна, і занёс газету дырэктару:

- На паглядзі: твой настаўнік цябе аслом назваў.

А таму не варта многа было тлумачыць: раз асёл, дык асёл. Па панядзелках у дырэктара быў свабодны дзень, і ён да вялікага перапынку ў школу не з'яўляўся. А тут на першы ўрок прыпёрся з намерам падсыпаць перцу, пісаку, як ён называў Алеся Іванавіча, за байку.

Дырэктар два першыя ўрокі не выходзіў са свайго кабінета. Толькі за 5 хвілін да вялікага перапынку зайшоў у настаўніцкую і паклаў свой сшытак, у якім рабіў запісы з наведаных урокаў і тут жа выйшаў. Гэта яго метад запалохвання настаўнікаў, бо яны ведаюць: раз дырэктарскі сшытак на вялікім перапынку на стале, значыць, пойдзе да кагосьці на ўрок. Хай пахвалююцца. А настаўнікі ад яго наведвання ніякага страху не адчувалі Алесь Іванавіч неўзаметку бярэ сшытак дырэктара і падсаджваецца да настаўніка гісторыі, які іграе на баяне і прыгожа малюе, і прапануе яму адным махам, не адрываючы ручкі ад ліста, на мяккай вокладцы сшытка нарысаваць галаву асла. Той, узяўшы ручку, шморг – і галава гатовая, Алесь Іванавіч, пегарнуў некалькі аркушаў сшытка і пытаецца:

- А ты ведаеш, у чыім сшытку маляваў?

Той па почырку пазнаў, каму належыць сшытак, і памкнуўся забраць яго, але Алесь Іванавіч паклаў сшытак на крэсла і сеў на яго. Празвінеў званок на ўрок, Алесь Іванавіч паклаў сшытак на стол, узяў з паліцы класны журнал і на парозе сутыкнуўся з дырэктарам, які паведаміў:

- Іду да вас на ўрок у дзесяты клас.

- Калі ласка – адказаў Алесь Іванавіч.

Пасля дзесяціхвіліннага апытвання настаўнік адхіліў фіранку на дошцы там была запісана тэма ўрока: "Мастацкія вартасці баек К. Крапівы" і план раскрыцця тэмы. Актыўнасць класа была высокая. Вучні вызначылі тэматыку баек, іх алегарычнасць, паасобныя мастацкія дэталі, рабілі высновы. Настаўніку адводзілася роля кіроўцы працэсу. Адзін з вучняў узняў пытанне: байка ў наш час, гэта значыць сёння. На той час, калі пісаў байкі Кандрат Крапіва, яны былі патрэбныя, бо тады байка была за песню будаваць і жыць дапамагала: ачышчала людзей ад заган мінулага. А цяпер, у перыяд развітога сацыялізму, няма тых парсюкоў, бараноў, аслоў, якіх высмейваў Крапіва. Узнялося многа рук. Адзін вучань выказаў нязгоду, ён сказаў што бараны, аслы Крапівы, жывучыя, сёння яны прыстасаваліся да новых умоў жыцця, і нельга правесці паралель паміж тымі асламі, якіх высмейваў Крапіва, і сягоннямімі.

Дырэктар агледзеў клас, закрыў сшытак, падняўся з-за стала і выйшаў з класа. Вучні запытальна пагледзелі на настаўніка, але ён ім нічога не патлумачыў. Хай самі разумеюць, як хочуць. Можа ён успомніў пра якія-небудзь недапрацоўкі, да прыкладу, ці конюх каня накарміў. Ці ўспомніў, што сам без снедання быў. Многа ў чалавека спраў невырашаных і напалову вырашаных. Гэта так у любога, а ў дырэктара школы тым болей.

Калі Алесь Іванавіч выходзіў з класа, Толік Шыкуць запытаў у яго:

- Чаму дырэктар пайшоў, не дачакаўшыся званка?

А Міхась Шкут адказаў яму:

- Чаго ты пытаеш у Алеся Іванавіча, ён жа яго з урока не адпраўляў, як цябе часамі адпраўляюць. Пайдзі і запытай ў дырэктара.

- А варта было б і запытаць, - адказаў Толік, такі цікавы ўрок, а ён так і не дасядзеў да канца.

У класе засмяяліся.

- На наступным уроку ты на пяцёрку адкажаш, –кажуць Толіку.

- А калі я не на пяцёрку адказваў? Я ўжо цяпер на пяцёрку адказаць магу.

- О, нам гэта вядома. Такіх, як ты, на свеце толькі трое, -гаворыць яму Таня Тамковіч, круглатварая вучаніца, прыгажуня.

- Ну хто? Ну, хто? Назаві іх, - пайшоў у наступ Толік.

- І назаву. Слухай: ты, Кудзін і яшчэ недзе адзін.

Дзе той адзін, Толік не пытаўся, бо адказ Тані быў бы не ў яго карысць. Вельмі вострая яна на язык, дасціпная.

Алесь Іванавіч запыніўся ў класе і паслухаў жартоўную гутарку вучняў. Яму яшчэ блізкім да душы было вучнёўскае жыццё, ён усяго два гады апасля інстытута адпрацаваў настаўнікам.

Дырэктар больш не наведваў урокі Алеся Іванавіча, а два тыдні на кожны ўрок хадзіў да настаўніка выяўленчага мастацтва. Настаўнік не мог зразумець, чаго дырэктар прыстаў да яго. Цярпеў, - цярпеў, а потым, запытаў:

- Яўген Антонавіч, што вы прысталі да мяне? Чым я вам не дагадзіў? Ходзіце, ходзіце, а нічога не гаворыце.

- А вушкі нашто? – толькі і змог адказаць дырэктар.

Сцвярджаюць, што найбольшай сілай у грамадстве валодае смех, якога нават цары баяліся. Пераканаўся ў гэтым: Алесь Іванавіч за дзесяць гадоў педагагічнай працы. Увесь час ён працуе ў адной школе, у якой пры ім мала адбылося змен. Не шанцуе толькі школе на дырэктараў, якіх за дзесяць гадоў змянілася аж сем. Мільгаюць яны, як тэлеграфныя слупы на ўзбочыне дарогі. Нешчаслівая школа. Прычыны розныя. Вось адзін з іх, дырэктараў – памяркуйце самі?

Звяртаецца класны кіраўнік сёмага класа да дырэктара:

-Антон Іванавіч, дапамажыце: мой вучань Адам Дудко з суседняй вёскі два тыдні ў школу не заяўляецца. Кожны дзень хаджу – і ні з месца. Маці накорміць, з хаты выправіць, а ён у кусты.

І што вы думаеце: дапамог дырэктар? Ага. Ён прыняў радыкальнае рашэнне: праз гадзіну на дошцы аб'яў у настаўніцкай з'явілася выпіска з загаду дырэктара па школе такога зместу: за сістэматычныя пропускі заняткаў вучнем VII класа Дудко Адамам аб'явіць строгую вымову класнаму кіраўніку Марыі Іванаўне. Тая ў слёзы, а ён і гаворыць:

- Масква слязам не верыць. Перада мною няма чаго плакаць,б пайшлі б і папалкалі перад Адамам і паказалі б яму гэтую вымову, можа хлопец адумаўся б.

-Ага, адумаўся б, - гаворыць настаўніца хіміі – дзеці гаварылі, які ён бяздушны. Захварэла маці, а час быў зімою. Адам ляжыць на печы. Маці просіць:

-Адамка, сынок, падай мне вады і напаі карову.

Адам нават не зварухнуўся, толькі адказаў:

-Або табе вады падам, або карову напаю.

Прасядзеў той на дырэктарскім крэсле чуць не два гады. Змяніў яго Сямён Сямёнавіч, якому засталося год да пенсіі.

Мінуў месяц ад пачатку навучальнага года, і школу наведвае абласное начальства: намеснік загадчыка аблана і загадчык аддзела па школах з абкаму партыі. Абедзве жанчыны.

Алесь Іванавіч зайходзіць у настаўніцкую, а там дырэктар і абкамаўка. Гутараць. Ён чуе наступны дыялог:

- Чытаеце вы часопіс, "Выхаванне школьнікаў"? – пытаецца абкамаўка.

- А як жа, чытаю, чытаю.

- А прыдатак да яго чытаеце?

- І прыдатак чытаю.

- А дзе ён знаходзіцца?

- Як дзе? На апошняй старонцы часопіса.

Жанчына чуць не ўпала ад смеху. Добра, што паблізу канапа стаяла, то яна і плюхнулася на яе. Алесь Іванавіч адвярнуўся да сцяны, яму стала брыдка за дырэктара. І шкада стала яго. Неўзабаве ў настаўніцкую заходзіць намеснік загадчыка аблана, а абкамаўка і паказвае пальцам на дырэктара:

- Глянь, які дурань: ён прыдатак да "Выхавання школьніка" чытае на апошняй старонцы часопіса – ха-ха-ха.

А дырэктар стаіць пасярод настаўніцкай і пазірае на настырную жанчыну, якую бачыць упершыню. Не разумее, чаго ёй трэба.

-Але гэтая абкамаўка – добрая зараза, -думае Алесь Іванавіч. – Прыстала з нажом да горла да старога чалавека. Ну ўжо факт? - не быць яму дырэктарам, пэўна, да канца года не дацягне. Мала пакіраваў іншыя хоць год затрымліваліся, а гэты і паўгода не працягне. І так добра: усё жыццё пракамандаваў. Каму якое шчасце. Пагарэў, бедалага, на гэтым прыдатку амаль у самым канцы дарогі.

Сёлетні дырэктар, як некалі казаў Якуб Колас, з вузел ростам, трыццаць гадоў адпрацаваў у пачатковай школе. Завочна закончыў гістарычны факультэт педінстытута, і партыя даверыла яму кіраваць сярэдняй школай, якая на колькасці вучняў пасля гарадскіх школ займае першае месца. То гэта яшчэ па-божаму. Бывала яшчэ цікавей.

У адным з сельскіх клубаў працаваў загадчыкам чалавек, які ні спяваць, ні іграць не ўмеў. А трымаўся на плаву, бо каля сэрца насіў чырвоную кніжку з сілуэтам лабастага лысага чалавека. Ведаў ён, што не вечна яму тут кіраваць, і ён завочна закончыў педнавучальню, пасля чаго яго прызначаюць дырэктарам васьмігодкі. Пры прыёме школы нейкі час марудзіў, не падпісваў актаў. Заглядаў ва ўсе шафы, у шуфляды сталоў, па гарышчы лазіў. Дзіваціцкім здаліся такія паводзіны яго папярэдніку – дырэктару ён і пытае:

-Што вас гэтак турбуе? Усё нават і цвікі пералічылі і заактавалі. Падпісвайцеся і адзначым факт гістарычнай значнасці, - у паўжартоўным тоне сказаў ён.

-А вось аднаго то не ўнеслі, - прамовіў – новы дырэктар,- тэчка дырэктара не ўнесена ў акты, і вы мне яе не перадавалі.

- Вы ведаеце,- сказаў былы дырэктар з прытворным жалем, зразумеўшы, з кім мае справу,- знасілася тэчка: ручка адарвалася, а вам, як новаму дырэктару, няёмка насіць яе пад пахаю. Гэта ж не абы-што, атрыбут улады. Папросіце ў раяна і вам новую выдадуць. Новы дырэктар, новая тэчка – гэта нешта ж значыць.

Пераемнік не заўважыў іроніі ў словах калегі і ў знак згоды падпісаў акты.

Аднойчы перабіраючы свой аўтарскі архіў Алесь Іванавіч натхнуўся на апавяданне – мініяцюру "За пяць хвілін да ўрока". Цікава іншы раз прачытаць тое, што напісана даўно. Нават не наверыш, што сам напісаў. Апавяданне было напісана па гарачых слядах, правобразам галоўнага героя, настаўніка фізікі, быў сам Алесь Іванавіч. Тады апавяданне не надта спадабалася, а цяпер наадварот, і ён паслаў яго ў раённую газету. Хутка апавяданне з'явілася ў газеце, у суботнім нумары. Вось яно:

*"На вялікім перапынку ў настаўніцкай заўсёды людна. Так было і сёння. Малады настаўнік фізікі глянуў у акно і ўбачыў, як на школьны двор ускочыў ГАЗік малочнага колеру, праімчаўся па двары і схаваўся за вуглом. Няўзабаве адчыняюцца дзверы настаўніцкай і парог перастутае бліскучы туфель на высокім абцасе. І туп-туп: па настаўніцкай крочыць уласнай персонай намеснік старшыні райвыканкаму. Замест прывітання ён чуць не крычыць:*

*-Дзе вашыя дзяжурныя настаўнікі?*

*Настаўнікі здзіўлена пагледзелі на яго, а фізік, той, што ўбачыў машыну праз акно, дакладвае:*

*-Адзін з дзяжурных - у сталоўцы: цяпер абедаюць вучні з першага паверху, а другі дзяжурны на сваім рабочым месцы.*

*А па настаўніцкай зноў туп-туп высокі асбцас. Начальнік падыходзіць да дырэктарскага стала, адсоўвае крэсла дырэктара і пытае:*

*-Чаму няма дырэктара ў школе?*

*-А ён у райцэнтры, - гаворыць фізік.*

*-Чаго гэта ён у рабочы час раз'язджае? - Не ўнімаецца начальнік.*

*-А ён не сам паехаў, а яго завезлі... у бальніцу, - з усіх адказвае фізік.*

*- Чым ён хворы?*

*Медыкі іншы раз не гавораць хваробу. Гэта называецца прафесійнай таямніцай.*

*-Ого, які ты разумны!*

*-Такі ўжо ўдаўся – не здаецца настаўнік.*

*Перапалка не мела б пэўна, канца, каб не званок. Настаўнікі разабралі журналы і рушылі на ўрокі. Апошнімі выходзілі жонка дырэктара і настаўнік фізікі. Яна са слязамі на вачах паскардзілася:*

*-Як яму не брыдка, яшчэ і адказны за школы. Не ведае, што дырэктар школы два тыдні ляжыць у бальніцы. Як ляжаў дырэктар саўгаса то першы сакратар райкама са Слоніма яму апельсіны прывозіў.*

*- Дырэктар дырэктару розніца – трэба разумець,-адказаў настаўнік, а сам падумаў: - Якое бястактнае начальства: за пяць хвілін так развярэдзіць душу жанчыне."*

Праз дзень, у панядзелак, у сем гадзін раніцы, у Алеся Іванавіча на кватэры зазваніў тэлефон. Званіў рэдактар газеты:

Што Вы натварылі сваёй мініяцюрай. Гэта ж мы: я і намеснік старшыні едзем да Вас. І дасталося мне. Ён патрабуе, каб Вы напісалі абвяржэнне.

- Антон Іванавіч, якое абвяржэнне, гэта ж мастацкі твор – апавяданне. Што абвяргаць?

-Але ж ён патрабуе. Да Вас збіраецца. Чакайце, хутка будзем.

- Нікуды не адходдзе, я яму патэлефаную.

Намесніка старшыні Алесь Іванавіч знайшоў у кабінеце, там быў ужо і рэдактар, відаць, збіраліся ехаць. Ніякія довады не пераканалі намесніка, і давялося Алесю Іванавічу пасылаць у газету тлумачэнні, што "За пяць хвілін да ўрока" – мастацкі твор, і ён напісаны дзесяць гадоў таму.

А пры сустрэчы з дырэктарам школы з райцэнтра той незадаволена сказаў:

- Навошта апраўдваўся. Хай бы пакруціўся – як вуж на гарачай скаварадзе.

Алесь Іванавіч падумаў: "Усім зараз не дагодзіш!"

**Мікола Грышан.**

# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**План пасёлка "10-ты квартал", станцыя Емцы, Плясецкі раён, Архангельскя вобл., 1940 г.**




## ЛІСТЫ, ПАСЫЛКІ

Не было абмежавання на пісанне і атрымванне лістоў. Былі цяжкасці з бракам паперы, чарніла, канвертаў. Канверты рабілі самі, а чарніла - з хімічных алоўкаў.

Не было тако ж абмежавання на даставанне пасылак ад родных на Беларусі. Для людзей у лагеры, якія мелі вялікія і дабрадушныя сем'і на Беларусі, пасылкі былі вялікай дапамогай. Дзеля прыкладу, у нас на Бацькаўшчыне была вялікая радня ў Патапавічах, Яечкавічах, Кончыцах, Еўлашах і г. д. Усе яны, без вынятку, слалі да нас пасылкі з салам, тлушчам, маслам, сырам, крупамі, мукой і д. п. Мы нават атрымлівалі пасылкі ад чужых нам людзей. Калі да гэтага дадам, што мы мелі сваю бульбу, сушаныя казлякі, ягады і сухары, дык у нашай сям'і не было голаду на пасёлку. З грашыма ў нашай сям'і тако ж не было праблемы. Дык, узяўшы ўсё пад увагу, можна сказаць, што наша сям'я была выняткам.

Не ўсе людзі на пасёлку даставалі пасылкі і не ўсе мелі столькі працаздольных людзей, як наша сям'я. Габрэі-бежанцы, дзеля прыкладу, пасылак не даставалі. А асаднікі-палякі, якія пасяліліся ў Зах. Беларусі ў міжваенны час, там не мелі родных. Дык мала хто з асаднікаў даставаў пасылкі.

## НЯМЕЦКА - САВЕЦКАЯ ВАЙНА

Нямецка-савецкая вайна пачалася 22.06.1941 года. Так як мы не мелі радыё на пасёлку, ані цэнтральных газет, аб вайне мы не дазналіся адразу. Але на другі дзень г. зн. 23.06.1941 г. мы забачылі, што камендант пасёлка, грамадзянін Кустоў, бегаў часта па пасёлку да сем'яў мясцовых расіянаў, у разстроеным і падэнерваваным стане. Мы падазравалі, што штось важнага сталася альбо станецца, можа нават з намі. Але хутка нам сказалі, што Нямеччына напала на Савецкі Саюз.

Што мы аб гэтым думалі? Якая была наша ўнутраная рэакцыя на гэта?

Нармальны чалавек не хоча вайны, вайны не чакае і ад вайны нічога добрага не спадзяваецца. Нашыя бацькі бачылі першую сусветную вайну, спусташэнні, бежанцаў, ахвяры і г. д. А бацька мой Сава, быў на фронце ў царскай арміі амаль чатыры гады. Між іншым, быў узнагароджаны высокім крыжам за адвагу і " і доблести" і яшчэ гадзіннікам фірмы "Павел Бурэ", які ходзіць па сягоняшні дзень! Дык мы, дзеці, добра ведалі ад бацькоў ваенныя трагедыі, няшчасці. Мы тако ж добра ведалі, што Беларусь апынецца першай пад немецкай акупацыяй; а там жа ў нас засталася вялікая радня.

З другога боку, мы былі ахвярамі камуністычнай сістэмы. Мы былі вывезены. Мы былі у лагеры. Мы не мелі ніякіх правоў. Дык у нас было падвойнае ўчуццё: адное ўчуццё гэта шкада што падчас вайны столькі людей пацерпіць. А другое ўчуццё і надзея, што цераз вайну быць можа вернемся на Бацькаўшчыну.

Бо я не пераўвялічваю, калі скажу, што мы цэлы час удзень і ўначы, ў думках і снах марылі, каб скарэй выехаць з гэтага праклятага пасёлка і вярнуцца дамоў, на сваю зямлю, да сваіх родных і блізкіх. Мы наіўна спадзяваліся, што цераз гэтую вайну, нашыя мары збудуцца. Так, аднак, не сталася.

З пачаткам вайны жыццё на пасёлку зрабілася горшым. Людзі пачалі выкупляць у краме ўсё, ці гэта было патрэбнае ці не. Пагоршылася яда на кухні. Хлеб увялі зноў на картачную сістэму. На пачатку давалі 800 грам на рабочага ў дзень і 400 грам на нерабочага. Але хутка гэтую норму зменшылі, на 600 і 300 грам паслядоўна. А пры канцы 1941 года зменшылі, здаецца, аж да 400 і 200 грам. Такая нізкая порцыя была цяжкая да пражыцця, тым больш, што ў краме не было іншых прадуктаў да харчавання. Людзі пачалі бедаваць, галадаваць.

Акрамя гэтага, на пасёлку не было ніякіх пераменаў. Працаваць трэба было далей, як і да вайны. Праўда, мы сачылі за ваеннымі падзеямі, як маглі. Ведалі, што немцы занялі Беларусь і падходзілі да Масквы.

Восенню прывезлі на наш пасёлак новых спецперасяленцаў (рускіх), аб чым я ужо пісаў.

## АМНІСТЫЯ

30.VII. 1941 г. ў Лондане, Англіі, была падпісана дамова паміж СССР і польскім эміграцыйным урадам. Дамову падпісалі генерал Уладзіслаў Сікорскі, прэм'ер міністр Польшчы і І. Майскі – амбасадар СССР у Лондане. У гэтай дамове гаворыцца, між іншым, што:

1. Дамовы паміж СССР і Нямеччынай з 1939 года якія датычаць змен у межах Польшчы, перастаюць мець сваю важнасць.

2. Наладзяцца дыпламатычныя стасункі і будзе ўстанаўленне амбасадараў, польскіх і савецкіх.

3. СССР пагаджаецца на стварэнне Польскай Арміі ў СССР.

4. І т. д. і т. д.

У пратаколе далучаным да дамовы 30.VII.1941 г. гаворыцца, што, калі будуць устаноўлены дыпламатычныя суаднocіны, СССР дасць амністыю для ўсіх польскіх грамадзян.

Тут трэба зрабіць кароткую, але важную, заўвагу аб слове "амністыя". Як ведома, слова "амністыя" азначае наступнае:

"... частковае альбо поўнае звальненне ад судовага пакарання, якое правадзіць вышэйшая ўлада". У нашым канкрэтным выпадку, нас зняволілі, але не судзілі. Дык, ці звальненне нас можна называць амністыяй? Хіба што не. Аднак, будзем ужываць гэтае слова.

Амністыя наступіла 12.VIII.1941 года пасля таго, як Вярхоўны Савет СССР устанавіў указ аб амністыі для "...былых польскіх грамадзян пазбаўленых свабоды, як ваеннапалонныя, як і з іншых абгрунтаваных повадаў..." Дык пад гэты указ падлягалі і мы г. зн. беларусы-спецперасяленцы, былыя польскія грамадзяне.

Хутка пасля 12.VIII. 1941 года, камендатура паведаміла нам аб пастанове Вярхоўнага Савета г. зн. аб амністыі. Наша становішча адразу змянілася, бо нам сказалі, што мы маем права хадзіць да іншых мясцовасцяў, як да станцыі Емцы, да Плясецка і да іншых населеных пунктаў.

Я вельмі часта хадзіў да станцыі Емцы. Я насіў туды вараныя брусніцы, якія прадаваў шклянкамі, на пероне. Маімі пакупчыкамі былі пераважна чырвонаармейцы, якія ехалі на фронт альбо вярталіся з фронту. З фронту вярталіся пераважна раненыя. На станцыі была сталоўка, дзе можна было добра з'есці.

Там, у Емцах, стаялі чырвонаармейцы, якія былі родам з Віленшчыны. Я з імі гутарыў. Цікава, што з імі сталася?

Казалі нам, што ў Архангельску ёсць польскае прадстаўніцтва. Некалькі людзей паехала туды каб дазнацца, "што нам рабіць". Пасля іх павароту мы дазналіся, што каля Куйбышава, у мясцовасці Тацішчава, фармуецца польская армія. Казалі нам тако ж, што мы павінны рабіць заяўку, каб дастаць савецкае "удостоверение". Наша сям'я зрабіла заяўкі і па пэўным часе дасталі пасведчанне. "Удостоверение" – вельмі важны дакумент, якім можна было выказвацца, хто Вы за адзін і што маеце права перамяшчацца ў іншыя часткі СССР. Пры адсутнасці нармальнага пашпарта, "удостоверение" было больш важным як пашпарт.

Некаторым людзям на пасёлку не далі пасведчання, і яны не маглі выехаць з пасёлка. Што з імі сталася потым, мы не ведаем.

Адзінкі сярод маладых і самотных хлопцаў пакідалі родных на пасёлку і выязджалі на поўдзень СССР, каб уступіць да польскай арміі. Так зрабіў, між іншым, Сяргей Хлус з вёскі Рылавічы Янаўскага раёна.

Надходзіла зноў халодная зіма. Жыццё на пасёлку пагаршалася. Людзі якія мелі пасведчанні пачалі рыхтавацца да выезду. З пасёлка выехалі да Плясецка (Архангельскай вобласці) нашыя сваякі з Патапавіч, сям'я Кананчук у колікасці 4-ох асоб. Варта тут успомніць, што з гэтых чатырох асоб, тры асобы вярнуліся да Патапавіч пасля вайны. А адна асоба, Іван Кананчук, уступіў да польскай арміі генерала Берлінга (пад савецкім кіраўніцтвам), ваяваў у гэтай арміі і па вайне пасяліўся ў Польшчы, на Шлёнску.

Наша сем'я, як і ўсе на пасёлку, пастанавілі ехаць да цяплейшых, паўдзённых мясцовасцяў СССР. Думалі, што там будзе лепей. Мы запісаліся ехаць да Уральска, які ляжыць на рацэ Урал у Заходне-Казахстанскай вобласці. Аб гэтым паведамілі каменданту і прасілі аб забеспячэнні нас вагонамі.

Дык нашае, амаль двухгадовае знаходжанне на выгнанні даходзіла да канца. Варта тут коратка прыпыніцца рэтраспектыўна, што не заўсёды можна было прадбачыць прышласць, цяжка адказаць на гэтае пытанне. Аднак пастараемся ўспомніць дзве мажлівыя гіпотэзы аб тым, што нас чакала ў прышласці.

Тут, ў Англіі, чытаў у кніжках–успамінах і польскай газеце, што бальшавікі вывезлі нас на 25-ці гадовае перасяленне. Колькі ў гэтым праўды, не ведаю. А што было б пасля 25-ці гадоў калі б хто і пражыў там гэты тэрмін? Мы ведаем, як я ўжо аб гэтым пісаў, што мала хто з украінцаў-перасяленцаў пражыў там і дзесяць гадоў. А 25 гадоў?

Другая гіпотэза ёсць больш праўдападобная, але тако ж не зусім дакладная, менавіта: 19 траўня 1958 года, Прэзідыюм Вярхоўнага Савета СССР, выдаў указ "Аб зняцці абмежаванняў з некаторых катэгорый спецперасяленцаў".

*СВЕДЧАЦЬ ДАКУМЕНТЫ*

### УКАЗПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР *

**Аб зняцці абмежаванняў з некаторых катэгорый спецперасяленцаў**

1.Зняць абмежаванні і вызваліць з-пад адміністрацыйнага нагляду арганаў МУС:

А) пасобнікаў нацыяналістычнаму падполлю і членаў іх сем'яў;

Б) членаў сем'яў былых памешчыкаў, фабрыкантаў, гандляроў, кіраўнікоў і ўдзельнікаў буржуазных палітычных партыяў і антысавецкіх арганізацыяў, кіруючых дзеячаў былых буржуазных урадаў.

2. Устанавіць, што зняцце абмежаванняў па спецпасяленню з асоб, пералічаных у артыкуле 1 гэтага Указа, не цягне за сабой вяртання ім маёмасці, канфіскаванай пры высяленні, і што яны не маюць права вяртацца ў месцы, адкуль былі выселены.

3. Вяртанне ўказаных асоб да ранейшых месцаў жыхарства можа дапускацца толькі з дазволу выканаўчых камітэтаў абласных Саветаў дэпутатаў працоўных або Саветаў Міністраў рэспублікі (без абласнога дзялення), з тэрыторыі якіх праводзілася высяленне.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета ССР К. ВАРАШЫЛАЎ,
Сакратар прэзідыума Вярхоўнага Савета ССР М. ГЕАРГАДЗЕ.
Масква, Крэмль, 19 мая 1958 г.

* *Вышэйшая цытата ўзята з кнігі Яўгена Семашкі пад назовам "Армія Краёва на Беларусі", Менск 1994 г.*

*(Працяг у наст. нумары.)*

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, седзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)*

### СВЕЧАЧКА, СЫЙДЗІСЯ

***(Гульня-гаданне на Каляды)***

Хлопцы і дзяўчаты загадзя рыхтуюць свечкі, якія прымацоўваюць на маленькія кружочкі з кардону (цяпер выкарыстоўваюць пенапласт). Свечку бралі такой велічыні, каб яна не падала, калі будзе стаяць на сярэдзіне кружочка. У якуюнебудзь вялікую пасудзіну (у начоўкі) налівалі вады, хлопцы станавіліся з аднаго боку пасудзіны, а дзяўчаты — з другога і ставілі кружочкі з запаленымі свечкамі на ваду, пільна глядзячы: чые кружочкі са свечкамі сыйдуцца, у тых і каханне будзе альбо вяселле (можа сысціся некалькі свечак), а чые не сыйшліся, тыя так і будуць паасобку.

### ПАКАЦІЛІ

***(Велікодная)***

На зямлі выкопвалі маленькія ямачкі (памерам як яйкі), адну за другой, ланцужком. Аднаму гульцу завязвалі вочы, і ён павінен быў пракаціць яйка, абвёўшы ямачкі (як слалам). Калі яйка трапляла ў ямку, то ён прайграваў, і аддаваў гэтае яйка спаборцу. А калі пракоціць усе ямачкі, тады, наадварот, той аддае яму сваё яйка.

### УГАДАЙ, КУДЫ НОСІКАМ

***(Велікодная)***

Яйка кладуць пад капялюш, і трэба ўгадаць, у які бок яно ляжыць носікам. Калі ўгадаеш, то яйка тваё. А гульня працягваецца.

### ХТО ПАБ'Е (БІТКІ)

***(Велікодная)***

Адзін з гульцоў трымае яйка ў жмені так, што бачны толькі яго носік. Другі гуляючы павінен носікам свайго яйка стукнуць па ім. Чый носік пабіўся, той паварочвае яйка другім бокам (пухай). Той, хто б'е, можа біць і носікам, і пухай. Калі ён пабіў і з другога боку, то забірае гэтае яйка. Гульня працягваецца, пакуль не скончацца яйкі.

### КАЦІСЯ, КАЦІСЯ

***(Велікодная)***

Для гэтай гульні робяць лёгкі жолаб з дошчачак, такі, каб па ім магло каціцца яйка. Гуляючыя дамаўляюцца: чыё яйка далей закоціцца, той і выйграў і забірае яйка другога.

Гуляць можна і па-іншаму. Адзін кладзе яйка ў нізе жолаба, а другі пускае зверху каціцца. Чыё пабілася, той аддае яйка.

### НА КУПАЛУ

Гульня праводзіцца пад музыку купальскага карагоду ("Купалінка"), можна з песняй.

Ля бярозкі збіраюцца дзяўчаты і кожная пляце вянок. Калі ўсё гатова, пад музыку водзяць карагод вакол бярозкі і па чарзе кідаюць на яе свае вяночкі. Чый завісае на галінках, тая перамагае, а чый упаў на зямлю, тая выбывае. Хто застаўся, водзяць яшчэ карагод. Так паўтараецца тройчы. Хто застаўся пасля трэцяга карагода, узнагароджваецца.

### ЗБЯРЫ КАЛАСЫ

Вядовец запрашае да снапа трох гульцоў, якія хочуць сабраць больш каласкоў. Па камандзе яны пачынаюць выцягваць па адным каласку са снапа. Хто за пэўны час нацягае больш каласкоў, той і перамог, яго аб'яўляюць лепшым хлебаробам, частуюць.

### СПЯЧЫ ХЛЕБ

На фанеры ці кардоне прыгожа малююць печ, выразаюць прыпечак. На печы пішуць:

***Дзякуй табе, хлебароб.***
***Хто хлеб з сабой носіць, той есці не просіць.***
***Без хлеба няма абеда.***
***Цані і беражы хлеб.***

Гульцу даюць у рукі драўляную лапату, на яе кладуць цеста, завязваюць вочы. Некалькі разоў яго паварочваюць і потым адпускаюць. Ён павінен з першага заходу "пасадзіць цеста ў печ". Калі яму гэта ўдаецца, то з-за печы для яго выцягваюць прыз — духмяны спечаны хлеб. А гульня працягваецца.

### ОХ, ЛЯНОК

Вядовец запрашае да сябе тых, хто ведае, як працаваць з лёнам і што з яго робяць, і просіць паказаць, як вырабляюць лён, як трэплюць, ніткі сукаюць і палатно ткуць. Хто зрабіў усё гэта правільна, той і ўзяў першынство.

### НА ВЯСЕЛЛІ

На апошні дзень вяселля незамужнія дзяўчаты станавіліся ў круг, а маладая здымала фату і кідала высока. Тая з дзяўчат, хто зловіць фату, пойдзе замуж у гэтым годзе. Ёй спявалі вясельную песню і вадзілі карагод, а яна стаяла ўсярэдзіне, трымаючы ўверсе фату, але не надзяваючы.

### АДГАДАЙ ІМЯ

У вядучага канверт, у якім напісана імя лялькі. Гэтую ляльку ён паказвае ўдзельнікам вечарыны і просіць адгадаць яе імя (імя выбіраюць рэдкае). Хто адгадае, той і атрымлівае ляльку ў падарунак.

### РОЗУМ ДОБРА, А ДВА ЛЕПШ

Вядовец раздае карткі, на якіх напісана толькі частка прыказкі ці прымаўкі. Удзельнікі вечарыны павінны адшукаць адзін аднаго, каб скласці карткі і атрымаць поўны тэкст. Хто хутчэй знойдзе, тыя і перамаглі, для іх падарунак — песня, танец ці што іншае.

### СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Двум удзельнікам гульні даюць канцы саматканага пояса даўжынёй 6 метраў, а вядовец трымае яго пасярэдзіне. Па камандзе вядоўцы гульцы пачынаюць скручваць пояс. Калі скруцяць да сярэдзіны (да рукі вядоўцы), то пачынаюць раскручваць. Калі ж раскруцяць, то бягуць да вядоўцы і кладуць канец пояса яму на плячо. Хто першы так зробіць, той і пераможца.

## *СПАРТЫЎНЫЯ ГУЛЬНІ*

### У ЧЫЖЫКА

Гуляюць на двары, для гульні патрэбны дзве палкі. Адну палку, якую завуць "чыжыкам", кладуць на зямлю і б'юць па яе канцы. У каго далей заляціць "чыжык", той і трымае першынство.

### ПЕРАЙСЦІ СПІНОЮ

Гуляецца на свежым паветры, там, дзе ёсць невялікая канава ці балацінка з вадой. Праз канаўку ці балота кладуць дзве жэрдкі (каб можна было па іх прайсці).

Гулец павінен распрануцца і ў плаўках прайсці спіною наперад на другі бок канавы — там яго чакае падарунак.

Зрабіўшы дзве такія дарожкі з жэрдак, можна наладзіць спаборніцтва: хто хутчэй распранецца і пройдзе.

### ЦЯГНУ ЗА ХВОСТ

Гульня добра ідзе ў Дзень рыбака ці калі вялікая кампанія на беразе рэчкі ля смачнай юшкі і на вечарыне.

Некалькі рыбін закручваюць па адной у паперу. Запрашаюць "рыбака" (гульца) злавіць тры ці пяць рыб, толькі цягнуць за хвост. На словы: "Лавіся, рыбка, вялікая і яшчэ вялікая", — "рыбак" выцягвае тры рыбы. Іх разгортваюць з паперы, і калі ён выцягнуў за хвост, а не за галаву, то выйграў. Затым ловяць іншы.

### ТУРАЎСКАЯ РЫБАЛКА

Гэтую вясёлую гульню праводзяць на кірмашах, розных святах.

Патрэбен вялікі акварыюм з тоўстай бляхі (шырынёй 2 м, даўжынёй 5 м, можна і большы). У яго запускаюць рыбу, пажадана карпа (ён жывучы). Той, хто хоча парыбачыць, плаціць грошы (пахвілінна). Затым распранаецца па пояс і адной рукой ловіць: колькі зловіць за свой час — столькі і яго.

### РЫБАКІ-ЖАРТАЎНІКІ

***(Латарэя)***

Гульню можна праводзіць як на вадаёмах, так і выкарыстоўваючы бочку ці балею з вадой. Устанаўліваюць 50–70 паплаўкоў, вырабленых з кавалачкаў дрэва (бярозы). У кожны з паплаўкоў ўбіваюць цвікі зверху і знізу, якія загінаюць у пятлю. Да ніжніх петляў прывязваюць прызы, каштоўныя і жартоўныя (парваны бот, шкарпэтку, прышчэпку і інш.).

Жадаючыя ўдзельнічаць у гульні-латарэі купляюць білет на права "рыбнай лоўлі", атрымліваюць вуду з вялікім загнутым цвіком на канцы жылкі. Па камандзе ўсе "рыбакі" пачынаюць лоўлю. За адну хвіліну яны павінны падчапіць адзін з паплаўкоў і выцягнуць прыз, а калі хто паспее — то і два.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 1. Бобрёнок. 5. Очередь.7. Строка. 10. Чай. 11.Кирпич (сырэц). 12. Последняя четверть луны. 13. Приспособления для досушки снопов. 14. Пар. 16. Пастбище. 17. Велосипед. 20. Руль (вадаплава). 22. Днём. 24. Ковёр. 25. Кость 26. Знаток. 28. Пенистый (напой). 31 Марш (у камандзе "Шагом – марш!"). 35. Замазка (ваконная). 36. Хоровод. 37. Разговор. 38. Лишь бы (только бы).

**Па вертыкалях:** 1.Топь. 2.Бревно. 3.Защита. 4. Яровой. 5. Журнал. 6. Шорник. 8. Пузырёк. 9.Удар кулаком. 15.Отрава. 16. Узнал. 17. Мятеж. 18. Вуаль. 19. Нюни. 21. Фон. 23.Ноет. 25. Пробка. 27. Тётя. 29.Власть. 30. Недра. 32.Серый. 33. Щёлок. 34. Люк. 35. Фитиль.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:*** Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 10. 11. 2003 г.
Наклад 2850 асобнікаў. Замова № 2543.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 240 руб. (у Менску - 250 руб.)